# Што дзялиць, а што не, каб супакой быу на сьвеци.

# Што дзялиць, а што не, каб супакой быу на сьвеци.

Бога ня треба дзялиць. Бога аднаго на усих хвациць. Няхай сабе кожны да Яго каротшай дароги шукае, як яго бацьки научыли, як сам ведае.

Ведамо, што дзялиць землю, скажe той, хто на зямли рабиць, а сваей не мае, або мае тольки крышку.

„Але, будуць землю дзялиць", здыхнуушы скажe и той, што яму да гетаго часу залишне — „нельга так далей жыць, як мы да вайны жыли".

Бальшавики казали иначей: „не дзялиць зямли, — уся зямля усяму народу". Соладко казали, алеж горка есьци тое, што нарабили и сабе и нам.

Якже яе дзялиць?

Адзин мудры чалавек, здаецца Леу Талстой, злажыу ци толька расказау такую народную байку:

Пакликау чорт чалавека—землероба ды кажe: „Глянь кругом, усе будзе твае. Идзи у каторы хочеш бок, займай круг, яки хочеш. Усе, што у той круг пападзе, твае будзе на веки-вечные. Абы тольки да захаду сонца круг той замкнуу, абы ты да закаду быу назад на том самом месцы, скуль выйдзеш.

Што далей было, сами дагадаецеся. Чалавек ишоу, ишоу, за увесь двень ни на минуцину не сапачыушы.

Аглядзеушыся, што сонце низко, стау бегчы, як мача. Пакуль да меты дабег, пау мертвы — серце не вытрымало.

Падабне и Хрыста чорт маніу, як Хрыстос яще быу чалавеком. Хрыстос не падауся. На тое Ен быу Хрыстос, а мы звычайные людзи.

Каб нам гетак давялося, як таму чалавеку з байки, то бадай, што и мыб гетак зрабили, як ен. Кожны, што зямлю щыра палюбіу, што у ей праз многа лет капаусе, сеяу ды садзіу, як будуць дзялиць, па дабрай воли не скаже — мне годзи.

„Штож, што сам вырабиць не здоляю, дзеци, унуки падрастуць, памогуць. Нехай мая зямелька тымчасам адпачыне, нехай кветками ды лесам зарасьце. Нехай уся за мною астанецца". Добра граматны и так гатоу сказаць: „янаж уся кругленькая, як яблычко, нехай у мяне уся у кишени ляжыць. А я добрым людзям, кали захочу, у варенду даваць буду, яны мне плацить будуць, будуць мяне слухаць. **Зямля не гарелка. Чарками яе не падзелиш так, каб усих здавалиць".**

**Аднак дзялиць треба. Треба так дзялиць, каб найменш было тых, што справедливе скажуць: „нам крыуда". Каб и тые без свайго гнязда, без хлеба не асталися.**

**У Польщы,** дзе трохи дауней, чым у нас, Немцау прагнали, а бальшавикоу, як добры гаспадар сьвиней у вагарод, не пусьцили, **да гетакого падзелу идзе.**

Сабралися выбарные ад усяго народу: найбольш мужыкоу ды работникоу, намиж их есць и людзи усялякой навуки, ды раяць уже не першы месяц у Сейми. Каб сем раз прымерыць, адзин раз адрезаць. Каб кожны ведау, дзе араць, дзе сеяць, дзе жаць будзе. Каб зямля аднаго гаспадара не была параскидана у дзесяци месцах.

На адно уже усе згадзилися. **Даць, кольки хваціць тым,** што маюць **або** простую практыку, **або навуку гаспа-**

дарскую. Каб зямля даремне не лежала, каб папала у добрыя руки, каб усих кармила.

Дзе цесна, треба и места пашырыць, каб нихто ня жыу як у казарми, як у вастрози. Каб кожнаму, хто захоче, было, як вольной птушцы — хоць гняздо з агародам. На гета усюды зямли хвациць.

Усе большіе лясы ды рыбныя воды треба пад апеку гасударства узяць, каб их не глумили. Каб лесом там тольки вольны гандель ишоу, дзе на гаспадарскіе патребы народу па невысокай цане хватае.

Пад гаспадарки ды на усякую патребу народнае государство дасьць зямли па невысокай цане на доугалетни выкуп, а на гандель не павинно даваць ни кальва.

Дабиваюць у Польским Сейми торгу тольки аб тым, дзе па кольки маргоу пры большых ды лепшых гаспадарках пакинуць. Адны хочуць каб да трохсот маргоу, другіе, каб болей.

И на тое згадзилися усе, што тым, каторые щыра зямли ад ворагоу баранили, або их дзецям, кали сами на вайне прападуць, у першую калейку даць треба.

Так яно будзе и у нас, кали станем спрауды гаспадарами роднаго краю. Кали будзем ведаць, дзе наша цьвердая граница ад суседних народау. Не так ад народау, бо на усих границах народ адзин з адным трохи памешаны, алеж ад суседних чужых гасударств.

Лихая пакуль што наша доля, што мы гетакай границы не маем, што нашу зямельку, як той агарод бяз плоту пры шырокай дарози, топче чужая жывела, ды чужые людзи, горшые пад час за жывелу.

Усякіе есьць на сьвеци народы: есьць гаспадарскіе, што на сваей зямли жывуць, а у чужую тольки на заработки, ды на навуку идуць, кали треба.

Ды есьць народы драпежные, што заняушы сабе поу

сьвету, николи не здаволяцса, усюды силаю, ци хитрасьцью лезуць.

З гетых народау, Турки, Татары уже супакоилися. Немцау, на наше вяликае щасьце, вяликая хеура вольных народау, **Коалиция**, цяжка пабила, алеж ихней силы, хитрасьци и злосьци нам заусюды треба сьцерагчыся.

**Асталася Масква. Яна паказала усяму сьвету, што заняушы чужого цераз меру, бараниць не умела ни разу, а таптаць нашу землю, палиць нашы гаспадарки, глумиць нашы народы патрапила два разы за адну вайну.** Нещасьце гетаго народу, што ен, як некая небывалая велизарная рыба, што мае шмат зубоу, шмат хвастоу, а галавы з душою ни годнае. Была нибыто галава, цар. Аглядзелися, што гнилая. Адсекли. Карысьць благая. На том самом мейсцы черви завялися. Замиж адной гнилой галавы, выскачыли дзьве, ци болей. Замиж аднаго чорнаго царскаго чыноуника, знайшлися з дзесятак чырвоных.

Што с таго, кали яны на усякую жоутую сьмярдячую брыду кажуць — чырвоная, кажуць — им малинаю пахне, кали нам яна чым сьмярдзела, тым сьмярдзиць.

**Не будзе у нас дабра, пакуль мы гетай брыды не выкинем, пакуль ад яе рову на уходзе не выкапаем, пакуль моцнаго плоту ци границы не паставим.**

Скажеце може: „**и у Маскве не усе разбойники, если людзи не горшые за нашых. Прауда. Тольки их доля такая, што добрые на дне сидзяць ды маучаць, або марне гинуць, а кепскіе палку у руках дзержаць ды камандуюць.**

**Граница патребна нам не ад добрых людзей, тольки ад дзикай двуногай жывелы, катороя нашу землю бесьциць ды нас на свой лад манежыць хоче.** Нам ад их пара сапачыць, пара ад голаду ды ад усякой пошесьци бараницса, пара хоць раз быць гаспадарами у сваей старонцы.

Праз гету границу мы прапусьцим, кали захочем, и добрых людзей, и добрыя думки, и патребны тавар.

Як гета граница павинна исьци, гетаго акуратна не ведаем. Може па вяликих реках—па Днепру, па Дзьвине—шмени лягчей бараницся будзе. Мы кажем — Днепр наш, Дзьвина наша. Маскали ци Украинцы кажуць — их. Ось и падзялицся можна: адзин берег нам, а други им.

Нехай так будзе, як сказау Начальник Польскаго народу Юзеп Пилсудски адбараниушы сваим войскам шматак нашаго краю ад гетаго жеутаго, ци чырвонаго нещасьця.

**Нехай народ, воласьць за воласьцью уезд за уездам скаже: на каторы бок гетой усходней границы ен апынуцсе схоче. Гета и называецса плебисцыт, або справедиувое народное галасаваніе.**

**Вы з Паляками ды з Литвинами у супольной бядзе маеце адно супольное щасьце. Маеце и голову и руки, што ад драпежных ворогау на усе баки бароняць. Алеж мало сказаць — дзякую, треба памагчы чым хто може.**

Наша небагатая зямелька мае гето щасьце не першы раз, што у незвычайнай прыгодзе з яе и чалавек незвычайны расьце. Хто з вас быу у вольнай старонцы—у Амерыцы, той ведаць павинен, што и там славяць нашаго Касьцюшку. Не здоляу ен ад тых самых ворогау, што и цяпер, ад Немцау, ад Масквы, Польшу ды наш край адбараниць, паушы у цяжкай битве ранами пакрыты. Алеж добра памог адбараниць Амерыку ад Англіи, каторая у той час яще на маладую амерыканскую волю ласа была. Не прапала яго чыстая кроу. Амерыка нам за яго цяпер доуг плациць.

Хто розум мае, той зразумее, **што ни Касьцюшки, ни Пилсудскаго, ни таго войска, що над им народную волю ад ворогоу бароніць, дзялиць не треба.** Треба Богу дзяковаць, што есьць, ды памагаць им з щыраго серца галазою ды руками пакуль лихо не мине.

А як лихо мине, як будзе граница, як прыйдзе супакой на усе народы, як сабярецса у нас свой выбарны Сейм,

або вялики сход ад усих нашых вольных народау, тагды Пилсудски зробиць, што треба, што уже раз зрабіу у Варшаускам Сейми. Прыйдзе ды скаже: бярыце гаспадарку у свае руки, а мне з маими ваяками пара сапачыць.

Ды ня будзем мы дзялиць нашаго краю, дзе жыли да баранилися як мала праз кольки сот лет Беларусы з Литвинами ды з Паляками ды з Украинцами, што вы их дауней хахлами звали, бо геты край — хто граматны, нехай пакаже на карци — як жывое цело жылами, так реками зьвязаны, а народы у им памешаны, як уселякае древо у Белавескай пущы. Падзялицса можэб, але бараницса у вадзиноцтве не дамо рады ни ад драпежнаго войска, ни ад драпежнаго гандлю суседзяу.

Не видаць нам инакшай дароги да вольнай гаспадарки. **Хто зразумеу гету думку да спадабау, нехай шырыць не далей. Хто нас иншую, нехай не маучыць.**

**Хто малады ды здаровы, нехай недоуга думаючы идзе на добрай воли у войско баранниць радную землю.**

*Тутейшы.*